Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп

№ 7. Вільня, Нядзеля, 25-га студзеня 1925 г. Год I.

## Урад і школа.

Падобна таму, як у сваім часе выканаўчая інструкцыя ўраду аб правядзеньні ў жыцьцё закону аб ужываньні беларускае мовы ў урадавых установах і судзе значна абмежавала правы беларускага насяленьня, і без таго куртатыя,—так і выданы толькі што загад міністра асьветы аб правядзеньні ў жыцьцё школьнага закону з 31 ліпня 1924 году, галоўныя пункты якога падаем у гэтым нумары, не аблягчыў, а йшчэ больш затрудніў, для беларусаў карыстаньне сваім правам, адносна да роднае мовы ў урадавай народнай школе.

Увядзеньне правіла, што кожын бацька павінен падаваць *асобную* дэклярацыю аб жаданьні вучыць сваё дзіця пабеларуску, стаўляе *першую труднасьць*: стары спосаб сялянскіх прыгавараў, які быў установлены йшчэ пад панаваньнем маскоўскіх цароў, быў бясспрэчна і шмат прасьцейшы, і лягчэйшы, і псыхалягічна больш зьвязаны з усім бытам нашага сялянства.

Але гэта—ня ўсё. Сьледам за гэтым мы сустракаем нязвычайна крыўдную для беларускага насяленьня *няроўнасьць* у карыстаньні правам на родную школу ў адносінах да палякоў і беларусаў. Калі беларус падае дэклярацыю аб жаданьні *беларускае* навукі для яго дзіцяці, ён *павінен пасьведчыць свой подпіс* у гміне, ці ў старостве, ці ў судзе, ці ў натарыюса. Калі-ж такую дэклярацыю падае паляк, ці хоць-бы той-жа беларус, але жадае *польскае* школы, дык *ніякага пасьведчаньня падпісу яго інструкцыя не вымагае*!

Мала таго: ўсё дэклярацыі бацькоў ці апякуноў, жадаючых *беларускае* навукі, школьны інспэктар, згодна з § 8, *правярае*, каб устанавіць, ці істнуюць варункі, пры якіх дэклярацыя мае вагу, а іменна: 1) ці гміна, у якой знаходзіцца, або мае адкрыцца школа, мае 25% беларусаў—„згодна з вынікамі апошняга агульнага сьпісу насяленьня“ (а калі-ж ён быў?!); 2) ці падпісаная на дэклярацыі асоба і паказаныя дзеці запраўды жывуць у межах дадзенага школьнага абводу (— гэта робіцца праз староства, гміну, або і асабіста інспэктарам); 3) ці паказаныя ў дэклярацыі дзеці—жывыя і ці будуць у школьным веку ад 1 верасьня адпаведнага году; 4) ці асоба, якая выступае, як апякун дзіцяці, мае на гэта права.

Нічога падобнага інструкцыя не прадугледзіла і тут для бацькоў, якія жадаюць польскае школы.

Урэшце, *беларускія* дэклярацыі прыймаюцца пад увагу толькі на *будучы* школьны і каляндарны год: іх трэба падаваць да 31 сьнежня *папярэдняга* году. Наадварот, дамаганьне *польскае* школы здаволіваецца ў *тым-жа годзе* ў восені, абы толькі дэклярацыі былі пададзены *да 30 красавіка гэтага году*,— значыць, тэрмін падачы польскіх дэклярацыяў на 4 месяцы даўжэйшы, чым гэта ўстаноўлена для беларускіх....

Можна сабе прадставіць, якія страшэнныя надужыцьці магчымы на гэтым грунце — ведама, на шкоду беларусам! Раз *ніхто не правярае* польскіх дэклярацыяў, раз няма патрэбы сьведчыць падпісы на іх, дык *у кожнай гміне*, хаця-бы чыста беларускай, лёгка можа аказацца *20 польскіх „мёртвых душ“*, дзеля якіх школа будзе двуязычная, калі ня чыста польская! Пішы толькі польскія дэклярацыі і падавай школьнаму інспэктару,— абы была каму ахвота на гэта....

Ужо гэтага даволі, каб ацаніць мэты і імкненьні аўтараў урадавае інструкцыі. І цяпер ясна, чаму гэта пан міністар Тугутт гаварыў у Вільні не аб *беларускіх* урадавых школах, якіх 40—50 ён маніцца адчыніць з гэтае восені, а, выключна, аб *двуязычных — польска-беларускіх*: *беларускія ўрадавыя школы, паводле гэнае інструкцыі, блізу зусім адпадаюць*....

Але тым больш энэргічна беларускае сялянства павінна *трэбаваць* беларускае ўрадавае школы, павінна аднача́сна энэргічна ўзяцца і за будаваньне сваей *прыватнай* школы ў роднай мове: гэта—*нашае бясспрэчнае права*, гэта — *наш адзіны ратунак ад нацыянальнае пагібелі*!

## Як дамагацца беларускае урадавае школы.

*(Гл.: Rozporządzenie Ministra Wyznań Religijnych i Oświecenia Publicznego z dnia 7.I.25 r., Dzien. Ust. № 3 — 1925 r. poz. 33).*

7 студня 1925 г. ўрад апублікаваў пастанову міністра асьветы аб тым, якія вымаганьні павінны быць здаволены дзеля адкрыцьця беларускае **ўрадавае** школы, ці ўвядзеньня навучаньня пабеларуску ў **польскай урадавай** школе.

Падаем тут галоўныя пункты гэнае ўрадавае інструкцыі, якія павінен ведаць і выпаўніць кожын беларус, калі жадае дабра сваім дзецям.

### Дзе мусіць быць беларуская школа?

Згодна з законам аб беларускіх школах з 31 ліпня 1924 году, беларуская ўрадавая школа **павінна** быць адчынена ўладай там, дзе сярод насяленьня ёсьць ня менш **25% беларусаў** і дзе гэтага зажадаюць бацькі ня менш, як **40 дзяцей** у школьным веку.

Гэта адносіцца да беларускіх ваяводстваў **Навагрудзкага** і **Палескага**, да ўсяе **Віленшчыны** і **Гарадзенскага**, і **Ваўкавыскага паветаў Беластоцкага ваяводзтва.**

### Школьны век.

Школьны век дзіцяці лічыцца **ад 1 верасьня таго каляндарнага году**, у якім дзіця скончыла ці мае скончыць **7 гадоў**, і да канца таго **школьнага (вучэбнага) году**, у якім дзіця канчае **14 гадоў** (— § 7-b).

### Хто мае права дамагацца беларускае школы?

Права выступаць з дамаганьнем забясьпечаньня дзецям навукі ў матчынай мове маюць: a) **бацька** дзіцяці; b) **матка**, калі бацька памер, або бацькаўскае ўлады ня выконывае; c) законны **апякун**, калі абое бацькі памерлі, ці ўлады бацькаўскае ня выконваюць. Права гэтае належыцца пералічаным асобам тады, калі адносіцца да дзяцей, якія ў дзень **пачатку** найбліжэйшага школьнага (вучэбнага) году **будуць у школьным веку** (— § 8).

### Дэклярацыі бацькоў.

Кожын бацька (матка, апякун) падае свайму павятоваму школьнаму інспэктару **асобна ад сябе дэклярацыю** з уласнаручным **подпісам, пасьведчаным у гміне, у судзе, у старостве ці ў натарыюса** (— § 8). Паводле выясьненьня, дадзенага беларускім паслам міністрам Тугуттам, за пасьведчаньне подпісу **ўрадавыя ўстановы ня маюць права браць плату** (апрача натарыюса).

Узор дэклярацыі падаем:

## Дэклярацыя.

*Я ніжэй падпісаны (ая)* . . . . . . . . . . . . . . . *грамадзянін (ка) Польскае Рэчыпаспалітае, беларускае нацыянальнасьці, жыхар* . . . . . . . . . . . . . . *гміны* . . . . . . . . . .
(імя і прозьвішча) (назову мяйсцовасьці) (назову гміны)

*павету* . . . . . . . . . . . . . , *як бацька—маці — праўны апякун дзіцяці — дзяцей — у школьным веку*
(назову павету)

1. . . . . . . . . . . . . . . . . (імя дзіцяці)
2. . . . . . . . . . . . . . . . . (імя дзіцяці)
3. . . . . . . . . . . . . . . . . (імя дзіцяці)
4. . . . . . . . . . . . . . . . . (імя дзіцяці)

*на падставе артыкулу 3 уставу з 31 ліпня 1924 г., зьмяшчаючага некаторыя пастановы аб арганізацыі школьніцтва (Dz. U. R. P. № 79 poz. 766), жадаю ўвядзеньня ў істнуючую—маючую адкрыцца публічную народную школу ў* . . . . . . . . . . . . . *беларускае выкладовае мовы.*
(назову мяйсцовасьці)

*Дн.* . . . . . . . . . . . *192* . . *г.* . . . . . . . . . . . . . . .
(уласнаручны подпіс)

**Да Школьнага Інспэктара**

ў . . . . . . . . . . . . .
(назову мяйсцовасьці)

УВАГА. У тэксьце дэклярацыі непатрэбныя словы перачыркнуць!

### Калі падаваць дэклярацыі?

Дэклярацыі можна падаваць у працягу ўсяго году, але дамаганьне роднае школы будзе здаваляцца толькі **ад пачатку найбліжэйшага школьнага году** і то пастольку, паскольку дэклярацыі былі пададзены **да 31 сьнежня (дзекабра) папярэдняга году** (— § 9).

Выключэньне з гэтага правіла зроблена толькі **дзеля сёлетняга году**: ад **гэтае восені** павінны быць здаволены ўсе тыя дэклярацыі, якія будуць пададзены **да 31 марца** 1925 **году** (— § 17).

Дэклярацыі-ж, пададзеныя пасьля 31 марца с. г., мецімуць вагу толькі дзеля 1926—27 вучэбнага году.

Дык **падавайце дэклярацыі ўраз-жа, не адкладаючы!**

### Увага!

Калі ў школьным абводзе будуць дамагацца навукі **папольску** бацькі ня менш, як 20 дзяцей, а **пабеларуску вучыць захочуць бацькі менш, як 40 дзяцей** (напрыклад, 39), дык школа будзе **чыста польская**. **Калі-ж** пры 20 польскіх дзецях зажадаюць **беларускае навукі** бацькі **40 ці балей дзяцей**, дык школа будзе **двуязычная**: польска-беларуская (— § 13).

Дык бацькі: памятайце, каб не паддаваліся чужацкай агітацыі і ня пісаліся на польскую навуку, **калі вы беларусы!**

**Ів. Мялешка.**

## Новы урад у Нямеччыне.

Даўно ўжо заўважана, што на той ці іншы склад ураду кожнага краю ў пэўнай меры—уплываюць, апрача ўнутраных сацыяльна-палітычных адносінаў, яшчэ і адносіны вонкава-палітычныя, у якіх жыве тая ці іншая дзяржава.

Прыкладам гэтага ўплыву ўраду міжнародавага на склад і палітыку зьяўляецца паняволеная і патрожу, але паступова, вызваляючаяся з пакоры Мямеччына.

Створаны ў выніку апошніх выбараў Сойм таксама адбівае з клясычнай дакладнасьцяй сілу гэтых уплываў вонкавага націску на край: сацыялістычна-пацыфічна-пакорная цэнтралевая „большасьць“ магла-б стварыць габінэт „вялікай коаліцыі“, — калі-б адносіны пераможцаў да Нямеччыны былі больш прыхільнымі; таксама і больш адпорна-нацыяналістычная „большасьць“ была гатова ў кожны мамэнт да рашучай барацьбы, калі саюзьнікі лішне зацягнулі пятлю на шыі нямецкага насяленьня...

Але абедзьве „большасьці“, як ужо ясна з іх амаль няроўнай сілы, не маглі стварыць запраўднай моцнай парляманцкай базы—з дня моцнага, праводзячага ясна вызначаную праграму.

Ясна ўжо з гэтага, што ўрад Лютэра, хоць і **безадказны**, але мае выразны **нахіл управа** — з моцным уплывам, калі не нацыяналістаў — выразных ворагаў Антанты, дык людоўцаў, скрытых яе праціўнікаў.

Уплыў нацыяналістаў і людоўцаў на ўрад — просты і ясны адказ на тое нарушэньне Вэрсальскага Трактату, на якое пазволілі сабе ўрады Антанты, адмовіўшыся зьняць акупацыю Кельна.

Узрост нямецкага адпору — яўны і бяссумліўны. І ў значнай меры гэта тлумачыцца тым амэрыканскім капіталам (пазыкай 800 міл. марак!), які ўжо гарантуе Нямеччыне некатарае падтрыманьне магутнага крэдытара.

Габінэт Лютэра, хаця і ня строга-парляманцкі, будзе мець падтрыманьне ў парляманце з боку нацыяналістаў у ліку 104 галасоў, нямецкіх людоўцаў — 51 голас, цэнтру—69 галасоў і баварскіх людоўцаў — 19 галасоў. Разам з рознымі дробнымі групамі „большасьць“ Лютэра будзе мець каля 250 паслоў на агульную лічбу 493 паслоў усяго Рэйхстагу.

Гэткі склад урадовай большасьці страшыць і абурае антанцкую прэсу.

Гэтая большасьць—**манархічная**, крычыць француская прэса.

Такі закід, можа, і мае слушнасьць, калі зьвярнуць увагу на тое, што амаль ня ўвесь адміністрацыйны—урадавы апарат Нямеччыны астаўся бяз зьменаў ад часу вайны.

Вось, гэта і ёсьць **„апора“** ўраду ў краю, больш моцная, чым падстава слабай парляманцкай большасьці. У гэтым—спрытна скрываная сіла габінэту Лютэра, якую Нямеччына пакуль-што выяўляць ня можа.

Вельмі цікава, што ўсе гэтыя небясьпекі лавіраваньня паміж „рэспублікай“ і ляяльнасьцяй да Антанты—з аднаго боку, і—„манархіяй“ і рашучым адпорам на яе ўціск, — з другога, рэзка выявіліся пры першым яго выступленьні габінэту Лютэра—у яго першай праграмнай дэклярацыі.

Правая, вялікшая „палова“ парляманцкай базы ўраду рашуча адмовілася згадзіцца нават на ўспамін у дэклярацыі слова „рэспубліка“. Яна-ж патрэбавала ўключэньня ў дэклярацыю такіх дамаганьняў ад Антанты, якія адказны перад заграніцай канцлер прызнаў, як піша, „Vorwörts“, „правакацыйнымі“. Справа ў тым, што нямецкі ўрад чакае новай ноты ў справе „разбраеньня“ і „ваеннага кантролю“. Дык вось, нацыяналісты і людоўцы дамагаліся, каб урад у сваей дэклярацыі—**папярэдзіў** дамаганьні Антанты ў самых рашучых выражэньнях — адмовы... нават Штрэзэман лічыць гэта немагчымым.

Ясна відаць, якім цяжкім будзе гэткі ўрад „цэнтра-праву“ — з малым і слабым цэнтрам — з вялікім і моцным правым крылом, — якое ў значнай меры **ўраўнаважываецца**, калі не **паралізуецца**, — такім-жа моцным левым крылом.

## Палітычны агляд.

### У Польшчы.

#### Справа польска-гданскага канфлікту ў Сойме.

5 клюбаў правіцы: эндэкі, хадэкі, дубадэкі, пястоўцы і работнікі-нацыяналісты—падалі ў Сойм супольную прапазіцыю, у якой, адзначаючы рад замахаў з боку Гданска на правы Польшчы, паводле істнуючых трактатаў і конвэнцыяў, заклікаюць урад, каб ён рашучымі мерамі дабіўся рэалізацыі ўсіх гэтых правоў дзеля запаўненьня Польшчы запраўды вольнага доступу да мора.

#### Нятыкальнасьць паслоў-палякоў.

Наказная Камісія Сойму адмовілася выдаць пракуратуры паслоў-палякоў: Дідуха (Радыкальная хлопская партыя), Марачэўскага з таварышамі (П. П. С.) і эндэка Гломбіньскага.

Пэпээсаўцаў пракурор цягнуў у суд за... інтэрпэляцыю!..

#### Канфэрэнцыя клюбаў лявіцы.

21 студня адбылася ў Сойме канфэрэнцыя старшыняў клюбаў лявіцы—P. P. S., Wyzwolenia, N. P. R. і „Związku Chłopskiego“.

Канфэрэнцыя адбыла нараду ў справах: гданскага канфлікту, кандыдатуры А. Слівінскага на міністра асьветы і—арганізацыі найвышэйшых ваенных уладаў у Польшчы... для п. марш. Пілсудскага. У апошняй (найважнейшай?) справе канфэрэнцыя прызнала вялікшую частку крытычных увагаў м. Пілсудскага слушнымі...

#### Раскол у „групе Брыля“.

Адпаўшая ад „Пяста“ ня так даўно „група Брыля“, якая стварыла т.-зв. „мужыцкі саюз“ (związek chłopski) у Сойме, цяпер сама распалася: 3 паслы выйшлі з „саюзу“ і вярнуліся „дамоў“... да свайго Вітаса, які гасьцінна прыняў „блудных сыноў“.

#### Манаполія на сярнічкі.

Міністар скарбу падаў у Сойм праект дзяржаўнае манаполіі на сернікі, якая будзе аддана амэрыканска-швэдзкай кампаніі на 25 гадоў.

Як дадае „Robotnik“,—на вельмі нявыгадных, цяжкіх варунках для польскага скарбу.

#### Добры міністар справядлівасьці.

„Robotnik“ піша, што пасьля вымушанай Соймам адстаўкі міністра справядлівасьці п. Выгановскага (эндэка) высьнілася, што ён назначыў

## Разрыў Ураду Б.Н.Р. з Літвой.

11 лістапада 1920 году літоўскі ўрад, жадаючы пры дапамозе беларусаў дабіцца прызнаньня за Літвой Вільні, афіцыяльна прызнаў урад Бел. Нар. Рэспублікі ў асобе В. Ластоўскага, даў яму прыпынак у Коўне на правох экстэрыторыяльнасьці і абяцаў усялякае падтрыманьне за тое, што ўрад Б. Н. Р. у свой чарод абязаўся агітаваць сярод беларускага насяленьня Віленшчыны і Горадзеншчыны, каб у часе праектаванага тады Лігай Народаў плебісцыту беларусы падавалі голас не за Польшчу, а за Літву, якая мелася даць беларускім землям аўтаномію. Аб гэтым была падпісана адумысная ўмова, якую падпісалі афіцыяльныя паўнамоцнікі абедзьвюх старон.

Як нас паведамляюць з Прагі, 10 сьнежня 1924 году старшыня Рады Б. Н. Р., П. Крэчэўскі, паслаў літоўскаму ўраду дыпляматычную ноту, у якой адзначыў, што літоўскі ўрад нарушыў цэлы рад пунктаў гэнае ўмовы, і дзеля таго зажадаў ад літвіноў вычэрпываючага тлумачэньня ў гэтай справе—у працягу 14 дзён.

Літоўскі ўрад ніякага адказу на гэта ня даў, а замест гэтага ўчыніў у Коўне рад варожых да тамтэйшага прадстаўніцтва ўраду Б. Н. Р. крокаў. Гэтак 23 сьнежня 1924 году, перад Куцьцёй, у прадстаўніцтве быў зроблены грубы вобыск, а 19 студня с. г. літоўская паліцыя сарвала з будынку прадстаўніцтва беларускі нацыянальны сьцяг і вывеску.

Не ўваходзячы ў істоту адносінаў паміж урадам Б. Н. Р. і літоўскім урадам, трэба адзначыць, што абураючая грубасьць разрыву „прыязных адносінаў“ зьяўляецца ў роўнай меры непрызваітай, як і бязмэтнай, бо ў памянёнай умове былі прадугледжаны і магчымасьць і спосаб ліквідацыі гэнае ўмовы.

## Ад Ганді да Даса.

(*Палітычная эвалюцыя індыйскіх незалежнікаў*).

Нядаўна—пасьля англійскай расправы з Ягіптам—амаль не ўва ўсіх польскіх газэтах зьявілася кароткая тэлеграма (ПАТ'а?) аб тым, што на агульна-нацыянальным кангрэсе ў Індыі перамагла **новая тактыка** знамянітага правадыра і „прарока“ індыйскага сялянства, Ганді, які рашуча адмовіўся ад пропаведзі байкоту англійцаў і, наадварот, заклікае да супрацоўніцтва з англійскай уладай. З гэтага ўсе, хто паверыў точнасьці гэтай весткі, маглі зрабіць вывад, што **палітыка моцнай рукі**, узноўленая Англіяй у Ягіпце, адбілася вельмі дадатна і карысна для Англіі—і ў Індыі.

Хто-ж такі гэты Ганді, з імем і асобай якога быццам зьвязаны—розум, пачуцьці, а перад усім воля 300 мільённага насяленьня англійскай Індыі?.

Для нас, беларусаў, якія апынуліся ў палажэньні, калі не аднолькавым, дык, можа, падобным да індыйскага, надзвычайную цікаўнасьць мае пазнаць і зразумець англа-індыйскія адносіны, а перад усім пазнаёміцца з асобаю і гісторыяй гэтага **ўжо адыграўшага сваю гістарычную роль** у вялікай эвалюцыі адраджэнскага і вызвольнага індыйскага руху.

Павучальнасьць для беларусаў асабістай гісторыі Ганді і тым больш—гэтай эвалюцыі ня можа падлягаць ніякаму сумліву.

---

Як ведама, слабасьць 300 мільённага народу ў адносінах яго да ня то, што тысячаў, ці сотняў, але нават і дзесяткаў англійцаў у Індыі і сіла апошніх была заўсёды ў тым, што англійцы мелі адзіны цэнтр, адзіную цэнтральную волю, адзіную арганізацыю, мелі сілу культуры, сілу аружжа і перад усім мелі магчымасьці і спосабы шыбкага і вольнага руху па ўсей тэрыторыі Індыі.

Наадварот, індыйскі народ, які няясна пачуваў сябе нацыянальна адзіным, быў парэзаны і падзелены паміж сотняў, калі ня тысячаў вялікіх і малых **„раджаў“**—князёў, на большыя ці меншыя самастойныя дзяржавы.

Англійская ўлада моцна падтрымлівала самадзяржаўе гэтых князёў і самастойнасьць іх дзяржаў—перад усім, каб не дапусьціць да нацыянальнага аб'яднаньня індыйскага народу, да адзінства яго арганізацыі, у якім слушна прадбачыла для сябе—**канец**.

І вось, перад усім трэба сьцьвярдзіць, што Ганді якраз першы ў нашыя часы зрабіў пачатак гэтаму нацыянальна-рэлігійнаму аб'яднаньню індусаў,—ня гледзячы на ўсе тыя перагародкі, якія нарабілі ў ім яго „прыраджоныя гаспадары“—уласныя „памазаньнікі“ і сеўшыя яшчэ на іх англійцы.

---

Хто-ж такі гэты Ганді?

Ганді радзіўся ў 1869 г. ў сям'і першага міністра аднаго з гэткіх дробных князёў.

Багацьце бацькі дало яму магчымасьць атрымаць добрае ўзгадаваньне і шырокую эўрапэйскую асьвету. 3—4 гады ён правёў у Лёндане — у ўнівэрсытэце. Вярнуўшыся этуль, выступіў, як юрыст — адвакат, бароначы родны народ перад створанымі англійцамі судамі.

І вось, тут шчырая і высока-інтэлігентная душа маладога адваката зразумела ўсю тую не казуістычную, але **прынцыповую крыўду**, якой дазнае пад чужой уладай яго родны народ. Крыўду, якой не парадзіш адвакацкай абаронай.

І Ганді выходзіць з адвакатаў і робіцца **нацыянальным** агітатарам, які перад усім хоча **падняць дух** свайго народу, **удыхнуць у яго веру ў свае сілы**, як першы варунак магчымасьці і сэнсу ўсякай барацьбы за вызваленьне.

Але перад тым, як пашырыць гэтую новую працу **над духам** роднага народу на сваей Бацькаўшчыне, Ганді едзе бараніць супляменьнікаў у паўдзённай Афрыцы і тутака праходзіць добрую школу палітычнага дзеяча—прадстаўніка—народу перад магутнай уладай англійцаў.

Вярнуўшыся дамоў, Ганді кідае мэтады палітычнае барацьбы і пачынае **лячыць** страціўшую сілу і веру народную душу рэлігійна-нацыянальнай пропаведзяй. Зьвязаўшыся з даўнейшай спрадвечнай традыцыяй народнай рэлігіі, Ганді, як і расейскі Толстой, вучыць, што з тым насільствам і гвалтам, з тым вызыскам і фальшам, якімі патроху, але напэўна, руйнуюць нацыянальную душу індускага народу англійцы, ня можна і ня трэба бароцца роўным насільствам, гвалтам і фальшамі.

Ня можна — дзеля таго, што народ — лішне слабы, раўнуючы з англійцамі, дый ня трэба, бо барацьба гэткімі мэтадамі перад усім прывучае да **гвалтаў і фальшаў** і, ня даўшы яшчэ перамогі, ужо забівае і атручывае „эўрапэйскім ядам“ народную душу. Дык гэткая барацьба — горшая за паражэньне.

Каб падыйсьці да народу і здабыць яго даверые, Ганді скідае з сябе эўрапэйскую вопратку, выракаецца ўсялякага камфорту, адракаецца ад **усяго гатовага**, што дала Індыі эўрапэйская культура—праз рукі англійцаў,—ад усяго таго, чаго пазбаўлены шырокія, многамільёныя масы простага сялянскага народу.

Ганді робіцца на від бяднейшым за самага ўбогага селяніна,—робіцца жабракам, які не жабруе. У вопратцы жабрака — з адным „ручнікам“ над бёдрамі і ў дзіравым плашчы, Ганді абыйшоў даслоўна ўсю Індыю, гарачым і натхнёным словам заклікаючы ўсюды да **вялікага адраджэньня** адзіны і магутны ў сваім адзінстве, а перад усім у сваей самабытнасьці—індускі народ.

Ганді першы кінуў у многамільённыя масы індускіх сялян думку і веру ня толькі ў **магчымасьць**, але і **блізкасьць і хуткасьць вызваленьня** іх з англійскай няволі.

Гэтая нацыянальная пропаведзь Ганді, зразумела, хутка зьвярнула на сябе пільную ўвагу англійскага ўсябачучага вока ў Індыі, але рэлігійная ахварбоўка і высока-маральны зьмест гэтай пропаведзі не далі магчымасьці англійскай уладзе прычапіцца да гэтага „прарока“, падымаючага ўсюды небясьпечны „дух“ сярод народу.

тычна атрымлівалі з скарбовай касы пэнсіі на **усіх служачых Округа па два і па тры разы**".

Зразумела: калі ўжо асьвета ці „прасьвета", ды яшчэ на „Крэсах",—дык павінна быць сыстэма!

Паводле віленскіх газэт, галоўны шэф канцэляры п. Куратара Віл. Округа, п. Рахальскі, адсунуты ад урадаваньня да канца сьледзтва за тое, што падпісаў, „ня чытаючы", фальшывую асыгноўку.

П. Кутатар просіць — правясьці сьледзтва... Міністэрства Асьветы, а не пракурора...

**Да паліцейскае панамы.** У Вільню прыехала з Варшавы адумысная камісія дзеля правядзеньня сьледзтва ў справе апошніх крымінальных праступленьняў, учыненых вышэйшымі агентамі віленскае паліцыі. У склад камісіі ўваходзяць: інспэктар бясьпечнасьці пры міністэрстве ўнутраных спраў, Мацкевіч, і інспэктар галоўнае каманды дзяржаўнае паліцыі Гальле.

**Палёгкі для „самаўрадаў" на „Крэсах".** „Dz. Wil." паведамляе, што ўрад маніцца зрабіць некаторыя палёгкі для крэсовых „самаўрадаў"— павятовых і гмінных, якія зусім душацца ад цяжара выдаткаў на паліцыю і інш. Перад усім маюць быць зьменшаны выдаткі „самаўрадаў на паліцыю, якія дайшлі да 70% усяго бюджэту павятовых соймікаў.. (больш, як дзьве траціны!).

Пасьля міністэрства абяцуе... пашукаць спосабу пакрыць дэфіцыты (недаборы) ў гмінных гаспадарках, якія (недаборы) ў некаторых гмінах даходзяць да... 150—200 тысячаў злотых! Абяцуе пашукаць.. але-ж у тых самых кішанёх, — дадаўшы яшчэ падаткаў—мясцовага насяленьня, якое ўжо зусім зруйнавана паборамі і падаткамі і якое быццам мае якраз атрымаць „палёгкі".

**Мітрапаліт Дзяніс—„адрадзіцель Польшчы".** Варшаўскі праваслаўны мітрапаліт Дзяніс з рук час. міністра асьветы Завідзкага атрымаў вялікую істужку польскага ордэну „Адраджоная Польшча", які атрымліваюць усе, хто асабліва заслужыўся дзеля адраджэньня Польшчы...

П. міністар адзначыў роль Мітрапаліта ў падтрыманьні „**гармоніі, пануючай між польскім урадам і праваслаўнай царквой у Польшчы**"...

**„Дасталася і нам!".** „Dz. Wil." піша, што за яго артыкулы аб надужыцьцях у віленскай паліцыі вельмі абурыліся найвышэйшыя паліцэйскія кіраўнікі, якіх зачапіла газэта, выражаючы баязьнь, каб сьледзтва аб іх ня было зьведзена да нуля.

Тлумачучыся перад гэтымі найвышэйшымі паліцэйскімі „чынамі", газэта паведамляе публіку і „зварачае ўвагу ўладаў" на тое, што яе № 15 быў а 5½ гадз. раніцы „арыштаваны" ў друкарні і пасьля на пошце... Аднак, праз гадзіну арышт быў зьняты..

Можа ў працягу гэтай гадзіны п. Obst як-раз і меў час напісаць свае „тлумачэньне?

# ПАПРАУКА.

У артыкуле „Пяцілецьце Вэрсальскага Трактату" зроблена важная абмылка, выкліканая ня яснай рэдакцыяй адноснага мейсца ў кніжцы Нітті „Эўропа бяз міру". У Саарскім абшары, які аддаены на 15 гадоў пад загад францускай адміністрацыі, і на якім праз 15 гадоў мае **адбыцца плебісцыт,** жыла ня пятая частка французаў, як сказана абмылкова, але на 650.000 немцаў усяго толькі... 100 душ французаў!.. **М.**

# Карэспандэнцыі.

## Самі выўчыліся.

*(З Ракаўскае гміны).*

Калі два гады назад, нашы сяляне, ня знаючы самі сябе, ішлі да польскай выбарнай урны, хаваючыся, стыдаючыся адзін аднаго, дык яны цяпер, за гэты кароткі час — два гады, добра зразумелі самі свае патрэбы. Трэба толькі паслухаць вясковых размоваў, адразу без абмылкі можна сказаць, што м. п. Тугутт з Грабскім, ня даўшы патрэбных школ для беларускіх дзяцей, адкрылі адну паўсюдную школу—**нацыянальна-палітычную.**

За два гады ашуканства шасьцёркі і тройкі беларускае сялянства стала зьнялюбіла гэную апеку, як злую мачыху, — бо ўжо ня хваліцца вясковая баба якому-небудзь паліцыянту, што яна каталічка; ужо ня хочуць у вёсцы чытаць польскую газэту вызваленцаў; ня чуваць ужо ў вёсцы і польскай песьні, прынесенай з Кангрэсоўкі. Адным словам, беларускае сэрца і душа пад уціскам у духоўнай няволі — знайшло свае спрадвеку роднае „я", і няхай ня цешыцца той, хто ашукаў сялян на выбарах!

Каждаму старому й малому западае ў сэрцы крывавая абіда і сьвядомасьць, што ніхто на сьвеце ня можа й ня мае магчымасьці і права адняць у другога прыроду яго роднай маткі й надзець яму, як той Ягайлаў белы кафтан, прыроду чужой маткі.

Рады тыя вёскі, дзе няма польскай школы, чужой і непатрэбнай, і ў каждай хаце бацька з маткай вучаць сваіх дзетак пасвойму.

**Антось Адзінокі.**

# АДОЗВА.

**Да вучыцялёў, скончыўшых Кракаўскія і іншыя польскія курсы і наагул беларуск. настаўніцтва.**

**Грамадзяне!** Вы ўжо падгатаваны з паляністыкі і, за малымі выключэньнямі, ужо працуеце ў польскіх школах. Шмат з Вас засталіся зусім бяз працы. Вы ведаеце, што, на падставе языковай уставы з 9.VII—1924 г. на жаданьне беларускай люднасьці, урад мусіць адчыняць беларускія школы, для якіх патрэбны вучыцялі ня толькі з беларускай кваліфікацыей, але і з польскай.

Польскую кваліфікацыю Вы ўжо маеце; неабходна яшчэ беларуская кваліфікацыя. Праэктуемыя ўрадам беларускія вучыцельскія курсы ў Кракаве і ў Вільні ўсяго разам на 80 чалавек не падгатуюць патрэбнага ліку кандыдатаў для беларускіх школаў.

Дзеля гэтага Цэнтральная Беларуская Школьная Рада, якая рупіцца аб тым, каб ня толькі адчыняліся беларускія школы але каб у іх працавалі і адпаведна падгатаваныя вучыцялі, заклікае ўсё беларускае настаўніцтва, якому беларуская школа ёсьць найдаражэйшаю і найбліжшаю, саматугам здабываць сабе кваліфікацыю на права выкладаньня ў беларускай школе.

Каб дапамагчы Вам здабыць гэту кваліфікацыю, Цэнтральная Беларуская Школьная Рада ў хуткім часе выдасьць і апублікуе падробныя праграмы—канспэкты па прадметах беларусазнаўства.

Калі Вы будзеце падгатаваны для выкладаньня ў беларускай школе, то школьная ўлада мусіць Вас перавясьці ў родную беларускую школу.

Гэтым Вы дапаможаце свайму гаротнаму народу вучыць сваіх дзетак у матчынай мове і тым самым споўніце Ваш сьвяты абавязак перад сваей шмат—пакутнай бацькаўшчынай.

Толькі высілкамі сваіх сыноў наш народ здабудзе лепшую долю і сваю родную школу!

**Цэнтральная Беларуская Школьная Рада.**
**Вільня, Віленская вул. 12—6**

## Палянізатар.

*(З Галынкі, Гарадзенскага пав., гм. Галынскай).*

У нас ёсьць польская школа, у якой вучаць, здаецца, хіба пааўстрыйску ці, мо', як вучылі ў XVII сталецьці палякі. Учыў у ёй, прыехаўшы аж з-пад Кракава „прасьвячаць" польскую „syberju", вучыцель—Бурдзель Мячыслаў. А запытайцеся ў яго, як ён вучыў нашых, яшчэ больш няшчасных за нас дзетак? Нават колькі дзяцей захварэла ад надта „шчырай" яго навукі і ляжалі ў пасьцелі.

Напрыклад, 25.XI гэты, з пазваленьня сказаць, Бурдзель зацягнуў у сваю хату аднаго вучня,—хлапца 12 гадоў, замкнуўся і давай яго „вучыць": насеўшы біць кіём, аж пузыры паселі. А як бацька запытаўся гэтага „вучыцеля", за што ён пабіў хлапца, той яму адказаў, што на тое мае права і нікога не баіцца. А, мо', ён і меў права, бо паліцыя, хоць і сьпісала скаргу, але-ж сьведкаў (сэкрэтара і войта гміны, каторыя гэта бачылі) не дапрашывала.

Праз дзень па гэтай „навуцы" пан Бурдзель, ня гледзячы на свае „права", уцёк з Галынкі, забыўшыся нават з „перапалоху" заплаціць тутэйшым жыдам і гміннаму ўраду грошы, бо пабаяўся мусіць „нападу бандытаў".

Хай нас Бог і пан інспэктар Горадзенскага павету бароняць ад такіх вучыцялёў, як пан Бурдзель Мячыслаў.

**Грамадзянін.**

## З нашага жыцьця.

*(Мілейчыцкае гм., Бельскага пав.).*

Хоць наша гміна беларуская, але школу, як і ўсюды, маем польскую. Але мала таго, што ў школе калечаць душу дзіцяці, вучачы яго папольску: захацелася палякам таксама правесьці палянізацыю й пасярод дарослых. Стварылі яны пры школе вячорныя курсы, але дзеля таго, каб больш заахвоціць люднасьць, адкрылі пры курсах і драматычную сэкцыю.

Мілейчыцкая моладзь пашла і на курсы і на сэкцыю, думаўшы, што, разам з польскімі камэдыямі, можна будзе іграць і беларускія.

Але ня тут тое было. На першым-жа сабраньні драматычнае сэкцыі, калі беларуская і нават польская моладзь сталі прасіць вучыцялёў, каб дазволілі пры польскай п'есе — беларускую „Кавалі" і дэкламацыю, то кіраўнік сказаў: „W szkole nie wolno grać i śpiewać pobiałorusku".

Як маладзёж тое пачула, то пабачыла, што з палякамі яны ня маюць чаго рабіць, ды грамадой пакінула і сэкцыю і курсы, адмаўляючыся іграць папольску. Але цераз пару дзён знайшліся ў Мілейчыцах два „**Валэйшы**" з беларусаў, якіх вучыцель намовіў іграць папольску.

Вось-жа цікава паглядзець, што гэта за людзі? Першы з іх, Петр Похвіцэвіч, як пагаварываюць людзі, мае даволі блізкае „знаёмства" з паліцыяй; бо, як адзін раз хлапцы пасварыліся з ім, то ён сказаў да аднаго: „ты маўчы, а то скажу адно толькі слова паліцыі, і цябе ня будзе ў Мілейчыцах!". — Другі — Дземіяновіч Ян, каторага цяпер узялі ў гміну ў памошнікі пісара (вядома, за якую-небудзь „заслугу"), бо ў гміне ў нас працаваў бедны хлапец (інвалід), каторага цяпер звольнілі.

Калі з паданем ад Мілейчыцкае моладзі зьвярнуўся Петр Тымашэвіч, аб пазваленьні на беларускапольскі спэктакль, то рэфэрэнт p. Krzeczanowski сказаў: W Bielskim powiecie i w Milejczyckiej gminie niema białorusów!"

Можа-бы нашы паслы памаглі-бы нашай моладзі ўстроіць аматорскае прадстаўленьне ў Мілейчыцах?

**„Марко".**



Рэдактар-Выдавец **Антон Пракапеня.**

Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22.